№ 80 (4025)

www.nv-online.info

13 кастрычніка 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**Не, дарэмна беларускія ўлады доўгі час прэсавалі “Народную Волю”. Калі б не яна, дык ці ведалі б яны праўду пра тое, што на самай справе адбываецца ў краіне? Ну вось прайшлі чарговыя прэзідэнцкія выбары. Калі верыць дзяржаўным заангажаваным СМІ, то ўсё было настолькі чынна і гладка, што хоць ты ўжо сёння стаў помнікі ўсім тым, хто займаўся арганізацыяй выбараў. У той жа час можна прывесці нямала фактаў, якія сведчаць пра тое, што на многіх выбарчых участках накруцілі так, што падарвалі аўтарытэт не толькі А.Лукашэнкі, але і ўсёй улады. Без сацыёлагаў можна было спрагназаваць: большасць электарату ўсё ж пакуль аддае перавагу Аляксандру Рыгоравічу. І навошта спатрэбіліся гэтыя восемдзесят з гакам працэнтаў галасоў? Ці не з-за іх столькі парушэнняў заканадаўства? Ці не з-за іх адпаведныя высновы зробяць еўрапейскія назіральнікі? А А.Лукашэнку гэта трэба? Як, дарэчы, і ўсёй нашай краіне, усяму беларускаму народу.**

**Паглядзіце сённяшнія дзяржаўныя газеты. Паглядзіце БТ, паслухайце радыё. І прачытайце матэрыялы ў “Народнай Волі”. Мы спецыяльна не сталі спяваць дыфірамбы А.Лукашэнку, мы, наадварот, звярнулі ўвагу на тое, што спрацавала не на яго аўтарытэт. Ён сказаў: пачынайце жыць па законе. Дык вось як хочацца, каб хутчэй наступіў той час, калі галоўная палітычная кампанія будзе праходзіць у Беларусі беззаганна, без парушэнняў заканадаўства.**

*(Працяг тэмы на 2-й і 3-й стар.)*

# Выбары прайшлі, а што наперадзе?

БЕЗ РОЗОВЫХ ОЧКОВ



Александр КЛАСКОВСКИЙ

## Тихая деградация Беларуси продолжится

*За несколько дней до этих выборов Александр Лукашенко публично дал понять, что харизматичному лидеру нации негоже побеждать с цифрой ниже 80%. И – о чудо! – Центризбирком в ночь на 12 октября сообщил о победе действующего президента с предварительным результатом в 83,49% голосов.*

При этом лишь 4,42% составил официальный результат занявшей второе место **Татьяны Короткевич**, мягкой оппонентки Лукашенко (еще два кандидата его только нахваливали). Эта цифра в разы меньше рейтинга Короткевич, зафиксированного в сентябре независимыми социологами (17,9% по закрытому вопросу зарегистрированного в Вильнюсе НИСЭПИ).

Краткое моралите таково: бессменный президент Беларуси не собирается менять систему, разводить «гнилую демократию» даже в ограниченных масштабах.

### Грубый административный инструментарий сработал

Впрочем, перед выборами под оком международных наблюдателей власти позволили оппонентам устроить несколько уличных праздников непослушания. 11 октября на избирательном участке Лукашенко раскрыл секрет полишинеля: *«Я жестко потребовал, чтобы не трогали никого до выборов»*.

Короче, силовиков, приученных «тащить и не пущать», ныне сдерживали. Но в остальном вертикаль действовала привычными довольно грубыми методами обеспечения результата «за 80», которому Лукашенко некогда невольно приклеил ярлык «элегантный».

На протяжении всей кампании глава государства получал размашистый, затмевавший соперников пиар на телевидении, в других государственных СМИ. Из каждого утюга народ толкали на досрочное голосование (результаты которого, по убеждению оппонентов режима, особенно темный лес).

В итоге явка, по данным Центризбиркома, составила 86,75%. При этом был поставлен рекорд досрочного голосования – более 36%.

Да, независимые наблюдатели фиксировали и принуждение, но по большому счету те же студенты, получившие перспективу лишних выходных, не выглядели, выстраиваясь в очереди на «досрочку», такими уж несчастными жертвами режима. Это к вопросу о новом поколении конформистов.

Люди постарше дисциплинированно шли на участки, ведомые привычкой слушать начальство или исполнять ритуал, как в советские времена. Пропагандистские страшилки насчет Украины тоже побудили какую-то часть электората отдать голос за мир и стабильность (понятно, в чьем образе). А кого-то привлек и дешевый буфет.

Независимое внутреннее наблюдение утверждает, что явка завышена. Но проблемы той части наблюдателей, которую не назначают чиновники, в том, что, во-первых, им мало что позволяют видеть; во-вторых, их дискредитируют (провокаторы и все такое); в-третьих, нет механизма, чтобы опротестовать, например, данные о явке через суд.

### Общество не готово давить на власть

Впрочем, и данные НИСЭПИ показывали, что порог явки в 50% плюс один голос наверняка будет превышен. К бойкоту этих выборов (агитировать за который к тому же запрещено) в сентябре положительно относилось только 15,5% респондентов.

Избранная частью оппозиции стратегия игнора (закамуфлированного бойкота), который-де испугает правящую верхушку, заставит ее демократизировать парламентские выборы 2016 года, изначально выглядела слабой.

Призывами уехать в день выборов на рыбалку, к теще на блины фактически поощрялся абсентеизм. Таким образом оппозиция демобилизует своих потенциальных сторонников, рискуя провалиться еще глубже в маргинальную нишу.

Вечером 11 октября бывший политзаключенный **Николай Статкевич** и его соратники объявили о начале кампании «Власть – народу». Намечено к ноябрю презентовать предложения по изменению избирательного законодательства. Но глава Центризбиркома **Лидия Ермошина** несколько ранее уже заявила: *«...Я пока таких перспектив не вижу»*.

Перед выборами в Палату представителей крылу бойкотистов предстоит определиться – продолжать или менять прежнюю линию. В любом случае трудно себе представить, что разрываемой взаимным недоверием оппозиции удастся выйти на сильную предвыборную коалицию, консолидированное послание электорату.

По крайней мере, кампания «Говори правду!», создавшая «проект Короткевич», давно декларировала, что президентские и парламентские выборы рассматривает в одной связке. Но выдвинутая кампанией стратегия мирных перемен тоже получила пробоину в виде низкого официального результата Короткевич на президентских выборах.

Лукашенко абсолютно ни к чему создавать в стране второго политика-тяжеловеса. Он ускользнул 11 октября на участке даже от журналистского вопроса, получит ли Короткевич должность во власти.

И вообще в рассуждениях действующего президента насчет *«человека в юбке»*, которому-де рано управлять страной, было, на мой взгляд, не столько сексизма (который увидела выдвиженка «Говори правду!»), сколько банальной ревности даже к относительному успеху любого конкурента.

Короче, Лукашенко не особо настроен заигрывать даже с мягкой оппозицией. Так что и надежды «Говори правду!» на мандаты в Палате представителей призрачны.

Расчет на то, что власть пойдет на мирные перемены, поразившись реальной долей голосов за Короткевич, так же слаб, как игнор/бойкот.

***(Окончание на 2-й стр.)***

ВЕРДЫКТ

## Назіральнікі АБСЕ: падлік галасоў быў несумленны

Прэзідэнцкія выбары 11 кастрычніка зноў паказалі, што Беларусі яшчэ трэба прайсці значны шлях да выканання абавязацельстваў па дэмакратычных выбарах, узятых пры ўступленні ў АБСЕ.

Пра гэта гаворыцца ў справаздачы назіральнай місіі Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, якая ўчора была прадстаўлена на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

*«Гэта падкрэслівае неабходнасць палітычнай волі для правядзення ўсёабдымнага працэсу рэформаў»,* – заўважаецца ў дакладзе.

Назіральнікі БДІПЧ АБСЕ адзначылі некаторыя паляпшэнні і *«ветлівае стаўленне»* да місіі. Але *«значныя праблемы, асабліва падчас падліку і звядзення вынікаў галасавання, падарвалі надзею на сумленнасць выбараў»,* адзначаецца ў дакладзе.

Пры гэтым падкрэсліваецца, што выбарчая кампанія і дзень выбараў праходзілі мірна.

*«Гэта відавочна, што перад Беларуссю доўгі шлях, каб выканаць усе дэмакратычныя абавязацельствы,* – сказаў спецыяльны каардынатар місіі кароткатэрміновых назіральнікаў Парламенцкай асамблеі АБСЕ на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, намеснік старшыні Парламенцкай асамблеі АБСЕ **Кент Хэрстэт.** – *Вызваленне палітвязняў і сардэчны падыход да назіральнікаў з'яўляюцца пазітыўнымі момантамі. Аднак тая надзея, якую нам гэта дало, не спраўдзілася. Улічваючы папярэднія абяцанні, я асабліва расчараваны недахопамі падчас падліку і сумавання галасоў. Мы спадзяёмся, што беларускі ўрад праявіць палітычную волю для паўнавартаснага працэсу рэформаў, у чым мы гатовы аказаць падтрымку»*.

*«Выбарчы працэс у дзень галасавання быў ацэнены пазітыўна на 95% выбарчых участкаў, дзе праводзілася назіранне, але вялікай колькасці назіральнікаў не дазволілі праверыць спісы выбаршчыкаў, а ідэнтычныя на выгляд подпісы зафіксаваны на 47 участках»,* – *гаворыцца ў справаздачы.*

*«Працэс падліку галасоў быў ацэнены адмоўна на 30% выбарчых участкаў, дзе праводзілася назіранне, што паказвае на значныя праблемы. Працэс сумавання вынікаў галасавання быў ацэнены як негатыўны і пазбаўлены празрыстасці на 25% выбарчых участкаў, дзе былі назіральнікі»,* – адзначаюць назіральнікі БДІПЧ АБСЕ.

Спадар **Рэха Дэнэмэч** ад імя Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы таксама адзначыў праблемы ў арганізацыі беларускіх выбараў, асабліва да дня галасавання. Ён заявіў, што трэба рэфармаваць прававую базу, каб гарантаваць сапраўды канкурэнтнае палітычнае асяроддзе падчас выбараў.

Назіральнік **Джым Уолш** з ПА АБСЕ заўважыў, што Беларусь не цалкам скарысталася магчымасцю палепшыць выбарчую працэдуру. Асабліва ён звярнуў увагу на няроўнае для палітычных сіл фарміраванне выбарчых камісій.

На пытанне дзяржаўнага інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА наконт стаўлення да ініцыятывы байкоту выбараў Джым Уолш адказаў, што людзі маюць права на няўдзел і на байкот выбараў. Гэта ставарае праблемы ў рэпрэзентатыўнасці падчас выбарчай кампаніі, але, на яго погляд, людзі маюць права на байкот.

Кіраўнік доўгатэрміновай місіі назірання АБСЕ **Жак Фор** заклікаў да грунтоўнай рэформы беларускага выбарчага закона, выказаў заклапочанасць нязменнай прававой базай, незбалансаванасцю і залежнасцю ад дзяржавы выбарчых камісій, а таксама заявіў, што былі заўважаны ўжыванні адміністрацыйнага рэсурсу на карысць дзеючага прэзідэнта.

На пытанне дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Лукашука, ці прысутнічаў хто з удзельнікаў прэс-канферэнцыі на працэдуры падліку галасоў хоць на адным з участкаў, Кент Хэрстэт адказаў: *«Мы прысутнічалі. Але сама прысутнасць не гарантуе магчымасці назіраць. Калі вы не бачыце, што адбываецца, узнікае пытанне, што вы там робіце”.*

Выніковая справаздача БДІПЧ АБСЕ будзе падрыхтавана і апублікавана праз 2 месяцы. Нагадаем, што беларускія ўлады вельмі спадзяваліся на прызнанне гэтых выбараў еўрапейскімі назіральнікамі.

МАНІТОРЫНГ

## Разыходжанне – 9,6%

Кампанія назірання «Права выбару-2015” цягам асноўнага дня галасавання на выбарах прэзідэнта здзяйсняла назіранне на 642 выбарчых участках.

Згодна з падлікамі назіральнікаў, у асноўны дзень галасавання на гэтых участках прагаласавала 336.577 чалавек. Паводле афіцыйных звестак – 368.878 чалавек. Такім чынам, разыходжанне ў падліку колькасці прагаласаваўшых грамадзян склала 32.301 чалавек, альбо 9,6%.

Яўка ў асноўны дзень галасавання на гэтых участках, паводле звестак назіральнікаў, склала 42,2%. Інакш кажучы, калі б не датэрміновае галасаванне, то выбары не адбыліся б.

Цяпер дадзеныя па Мінску, дзе прадстаўнікі кампаніі 11 кастрычніка працавалі на 82 выбарчых участках.

Згодна з падлікамі назіральнікаў, у асноўны дзень галасавання тут прагаласавала 58.476 выбаршчыкаў. Паводле афіцыйных звестак, на гэтых жа ўчастках прагаласавала 63.022 чалавекі. Такім чынам, разыходжанне ў падліку колькасці тых, хто прагаласаваў, склала – 4546 чалавек, альбо 7,8%. Яўка па Мінску ў асноўны дзень галасавання на гэтых участках, паводле звестак назіральнікаў, склала 40,7%.

А цяпер што тычыцца датэрміновага галасавання.

Паводле звестак назіральнікаў кампаніі «Права выбару-2015”, што мелі поўныя звесткі аб агульнай колькасці грамадзян, якія зарэгістраваны на 552 выбарчых участках, яўка на датэрміновым галасаванні ў цэлым па краіне склала 29,8%. Паводле афіцыйных звестак, яўка на гэтых жа ўчастках склала 31,1% (у цэлым па краіне, паводле афіцыйных звестак ЦВК, – 36,05%).

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ЧУЛІ?

## Санкцыі прыпынены

Савет Еўрапейскага Саюза прыняў рашэнне прыпыніць на 4 месяцы дзеянне санкцый у дачыненні да Беларусі.

Пра гэта паведаміў журналістам дзяржсакратар па еўрапейскіх справах пры МЗС Францыі **Арлем Дэзірэ.**

НАДВОР'Е

## Дажджы і мокры снег

Паводле прагнозаў сіноптыкаў, у другой палове гэтага тыдня стане крыху цяплей, але прыйдуць ападкі. А пакуль захаваецца халоднае надвор'е.

Сёння, **13 кастрычніка**, магчымы мокры снег і дождж. Тэмпература максімальная днём +5...+11°С.

У сераду і чацвер **14 і 15 кастрычніка** пераважна без ападкаў. Тэмпература паветра мінімальная ночцу -4...+3°С, пры праясненнях да -6°С, максімальная днём +4...+11°С.

АЛЬТЕРНАТИВНАЯ ПОЗИЦИЯ

## Миссия наблюдателей от СНГ признала президентские выборы в Беларуси «прозрачными, открытыми и конкурентными»

Об этом вчера заявил глава миссии – исполнительный секретарь Содружества **Сергей Лебедев** на пресс-конференции в Минске.

*«Президентские выборы проведены в соответствии с Конституцией и Избирательным кодексом Беларуси. Была обеспечена реализация права граждан на свободное волеизъявление»,* – сказал он.

По словам Лебедева, выборы, на взгляд миссии, *«прошли более спокойно и организованно, чем пять лет назад». «Этому способствовали изменения в избирательное законодательство, которые улучшили организацию выборов и еще больше приблизили его к признанным демократическим нормам»,* – считает он.

Некоторые наблюдатели, отметил Лебедев, даже считают, что с избирательного законодательства Беларуси *«можно брать пример»*.



Светлана АЛЕКСИЕВИЧ:

## «Общий уровень политической элиты у нас советского склада. Даже еще хуже»

*Лауреат Нобелевской премии, всемирно известная писательница Светлана Алексиевич дала за последние несколько дней два обширных интервью – в Минске и в Берлине. Мы публикуем самые яркие цитаты из них.*

* * *

«Я чувствую себя человеком белорусского мира, белорусских ощущений, человеком русской культуры и человеком, который долго жил в мире и который является космополитом. Со мной все вместе. Добрый русский мир, гуманитарный русский мир, тот мир, которому до сих пор поклоняются все – литературе, балету, музыке великой, – да, этот мир люблю. Но я не люблю мир Берии, Сталина, Путина, Шойгу – это не мой мир».

* * *

«Мы живем еще в такое несовершенное время, в таком несовершенном обществе... Я не баррикадный человек, но постоянно тянет на баррикады. Потому что стыдно, стыдно за то, что происходит».

* * *

«Я отношусь к тому поколению, которое воспринимало перестройку как личную историю, я из тех, кто все это горячо поддерживал, делал, верил. И именно для нас самый больной вопрос: почему все оказалось напрасным, почему народ молчит?»

* * *

«Общий уровень политической элиты у нас советского склада. Даже еще хуже. В советской все-таки были планки. Там были люди, которым долго нужно было ползти по этой лестнице, чтобы доползти. А сегодня ты из грязи в князи и – руководишь. Кто только не был министром культуры – и строитель, и фабзаец какой-то, кто только не был. Я думаю, надо делать свое дело и говорить то, что ты думаешь».

* * *

«Белорусская власть делает вид, что меня нет, меня не печатают, я не могу нигде выступать, во всяком случае по Белорусскому телевидению...»

* * *

«Тоталитаризм, лагерь, назовем так, развращает и палача, и жертву. То есть, нельзя сказать, что жертва выходит абсолютно нетравмированной. Вот мы сейчас живем в этот травмированный период. Все мы так или иначе приколочены, даже вы, еще молодая по возрасту журналистская аудитория, к этому советскому опыту».

* * *

«У Лукашенко сейчас очень сложное положение. Он очень хотел бы оторваться от России. Но кто же ему даст? С одной стороны, его держит собственное прошлое. С другой стороны, его держит Путин. Под собственным прошлым я имею в виду, что он не знает других правил игры. Он с этим вырос, несмотря на то, что, надо признать, у него очень сильное политическое чутье».

* * *

«Спасение Беларуси – если бы она повернула в сторону Евросоюза. Но никто ее не отпустит».

* * *

«Я считаю, что призыв к бойкоту – это ошибка оппозиции. Это можно элементарно подсчитать, что если мы бойкотируем выборы, мы даем шанс повысить количество процентов Лукашенко. Это очень просто. Я уже где-то разочарована в нашей оппозиции и в нашем народе, если так можно сказать. Что же мы никак не проснемся? А когда? Я думаю, что это долгий путь».

* * *

«Я против революции. Я не хочу, чтобы хотя бы одна жизнь молодого парня была потеряна. Я считаю, мы должны найти свой белорусский «гандизм». Если мы будем вместе, мы его найдем, конечно».

* * *

«Что касается антизападничества, которое сейчас пропагандируется особенно в России, то я считаю, что это сойдет. Уйдет вместе с нынешними лидерами. Нет этой ненависти в народе. Ни в русском, ни в белорусском народе нет ненависти к Западу, к Европе. Это все пена, созданная политиками».

***(Фрагмент из книги С.Алексиевич «Время секонд хэнд» читайте на 6-й стр.)***

ХТО КАГО?

## Фальсіфікацыя ці «падман зроку»?

Незалежны назіральнік **Наталля Гарачка** ўпэўнена, што на самым вядомым выбарчым участку краіны – №1, які месціцца ў будынку Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры і ў якім 11 кастрычніка галасаваў Аляксандр Лукашэнка, адбыўся “ўкід” бюлетэняў. Старшыня ж выбарчай камісіі Віктар Барташ сцвярджае: у незалежных назіральнікаў дрэнна з матэматыкай, а канчатковыя лічбы, якія былі агучаны, – правільныя.

“Народная Воля” паспрабавала разабрацца ў гэтай спрэчнай сітуацыі.

Адразу адзначым: у кожнага з бакоў гэтай гісторыі свая праўда. Тым больш што, як і на большасці ўчасткаў краіны, да падліку галасоў назіральнікаў тут не дапусцілі. Кожны бюлетэнь яны таксама бачыць не маглі.

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# Аліна ТАЛАЙ: «Многім мужчынам складана ладзіць з разумнымі жанчынамі»



Адна з самых паспяховых нашых спартсменак аналізуе праблемы ўзаемаадносін паміж сучаснымі мужчынамі і жанчынамі, расказвае, ці перамог фемінізм у Еўропе і як змянілася яе жыццё пасля медаля чэмпіянату свету.

Каб кожны мог ацаніць маштабы апошняга дасягнення Аліны, патлумачым наступнае. Папулярнымі відамі спорту, як лыжныя гонкі ці біятлон займаюцца ў дзясятках краін свету. А лёгкай атлетыкай – па ўсёй планеце Зямля. Таму здабыць бронзавы медаль на чэмпіянаце свету ў бегавой дысцыпліне – гэта без перабольшвання трыумфальна. Што можа быць цяжэйшым!

### "Спорт рэдка сню"

– На папярэдніх чэмпіянатах свету і на Алімпіядзе я спынялася за крок ад фіналу, – згадвае Аліна. – А выхад у фінал азначае, што ты – у сусветнай эліце лёгкай атлетыкі. Было вельмі крыўдна і балюча. Я загадзя ведала, што на чэмпіянаце свету 2015 года бой будзе жорсткі. Таму бронзавы медаль стаў для мяне прыемным шокам.

**– Ты прачнулася знакамітай раніцай пасля п'едэстала?**

– Мае старонкі ў сацсетках проста распірала ад віншаванняў і паведамленняў, на якія я потым карпатліва адказвала. Як і любому чалавеку, мне прыемна такая ўвага, усведамленне, што маю работу высока ацанілі. Але я не адчуваю сябе знакамітасцю. Мяне па-ранейшаму рэдка пазнаюць на вуліцы, і ніхто не патрабуе: "Распішыцеся ў мяне на грудзях!" Я не імкнуся да поспеху і ўсеагульнага прызнання. Гэта адымае шчырыя пачуцці паміж табою і людзьмі. Я часта чула ў свой адрас: "Яна ж такая! Яна з простымі смяротнымі не размаўляе..." Гэта, натуральна, смешна. Паспяховае выступленне не змяніла мяне, змянілася стаўленне людзей да мяне. А мне так не хацелася б, каб людзі ўва мне бачылі толькі медалі і медыйную асобу...

**– Што ты сніла ў ноч перад фіналам?**

– У Пекіне доўга не магла заснуць праз розныя гадзінныя паясы і спрабавала сябе нечым пацешыць: слухала ўлюбёныя літаратурныя перадачы Дзмітрыя Быкава на радыё "Эхо Москвы". Засынала позна. Што сніла, не памятаю. Па шчырасці, я не веру ў прыкмі і імкнуся рэальна глядзець на рэчы. А спорт наогул рэдка сню. Можа, адзін ці два разы ў жыцці бачыла ў снах спаборніцтвы. Можа, таму, што ў вольны час шмат пра спорт не думаю.

### «Было смешна, калі сказалі: «Табе будзе вельмі цяжка знайсці мужа, бо ў цябе ўсё ёсць»

**– Кожны лёгкаатлетычны від спорту траўманебяспечны. Як ты пераадольваеш боль?**

– Мне падабаецца жыць і працаваць на мяжы сваіх магчымасцяў. Перамагчы свае слабасці і недахопы – гэта ж крута! Аднойчы я падышла да люстэрка, пільна зірнула на сябе, і мне стала так цікава, што можа маё цела, дзе мяжа яго фізічных здольнасцяў. Імкнуся зразумець гэтую мяжу.

**– Значыць, ты лічыш сябе моцнай дзяўчынай? Ці перашкаджае гэта ў асабістым жыцці?**

– Было вельмі смешна, калі мне аднойчы сказалі: "Табе будзе вельмі цяжка знайсці мужа, бо ў цябе ўсё ёсць". Маўляў, муж патрэбны, каб забяспечыў кватэрай, машынай, грошы на модныя сукенкі даваў. Але гэта не так. Бяда сучасных дзяўчат у тым, што яны вельмі меркантыльна ставяцца да хлопцаў. Мне, напрыклад, патрэбны не гаманец з грашыма, а партнёр, блізкі па духу чалавек, з якім можна смела разам крочыць па жыцці, развівацца як асоба. Няма больш агіднага, чым разам дэградзіраваць.

**– Чаму ў наш час паспяховым беларускам не так проста знайсці сваю другую палову?**

– Многім мужчынам складана ладзіць з разумнымі жанчынамі: маўляў, я адзін павінен быць лідарам у сям'і. Вось ён нечага ў жыцці дасягнуў і лічыць гэта дастатковым. Але які ты лідар, калі не хочаш далей развівацца, працаваць над сабой? Канечне, з прыгожай дурніцай жыць прасцей, а потым мужчыны пачынаюць наракаць: "Мне так сумна з маёй жонкай, няма пра што пагутарыць..."

А спартсменкам яшчэ цяжэй знайсці сабе пару. Многім мужчынам складана перажыць поспехі сваёй жанчыны. Да таго ж гэтыя вечныя зборы, спаборніцтвы, калі ты надоўга з'язджаеш з дому! І вось ты кажаш свайму каханаму: "У мяне ёсць выдатны шанц палепшыць свае спартыўныя вынікі, але для гэтага трэба надоўга з'ехаць за мяжу". У адказ большасць з нас чуе: "Не, ты што! Як так? Я тут, а ты там..." Мужчынам-спартсменам у гэтым сэнсе прасцей: іх жанчыны едуць разам з імі.

### «Чуткі, што ў Заходняй Еўропе перамог фемінізм, – усяго толькі чуткі»

**– На зборы ты пераехала ў Вену. Ці моцна аўстрыйцы адрозніваюцца ад беларусаў?**

– Я пакуль не ўбачыла вялікай розніцы. Нават чуткі пра тое, што ў Заходняй Еўропе канчаткова перамог фемінізм, – усяго толькі чуткі. Аўстрыйскія мужчыны па-ранейшаму галантна ставяцца да жанчын: адчыняюць ім дзверы, дораць кветкі, частуюць у рэстаранах. Венцы вельмі стылёва апранаюцца і сочаць за сваім здароўем, рэгулярна выбягаюць на прабежкі і займаюцца ў фітнес-клубах. А наведванне знакамітых венскіх баляў ці оперы – у іх цэлы рытуал: мужчыны – у смокінгах, жанчыны – у элегантных вячэрніх строях.

**– А як ты бавіш час у Вене?**

– Па шчырасці, мне больш даспадобы розныя бары і клубы, дзе можна файна бавіць час у нефармальнай абстаноўцы і пазнаёміцца з новымі людзьмі. Мая сяброўка-аўстрыйка пастаянна запрашае мяне на розныя музычныя імпрэзы і паці, якімі так славіцца Вена, але праз спаборніцтвы ніяк не магу іх наведаць. Вось і ў гэтым годзе планавала трапіць на буйныя музычныя опен-эйры ў Аўстрыі і Венгрыі, але дзе там! Добра, што зборы праходзілі на Тэнерыфе, дзе ўвесь час з задавальненнем насілася на матацыкле па ўзбярэжжы акіяна. Вакол – нікога, толькі ты і прырода. Казка! Ёсць такія моманты, калі здаецца, што нічога асаблівага не адбываецца, але яны пакідаюць глыбокі след у душы.

### "Мой трэнер такі ж вар'ят, як і я"

**– Не раззлавала трэнера, што набыла сабе матацыкл?**

– Не, Філіп Уінфрэд – такі ж вар'ят, як і я. Калі ён пра ўсё даведаўся, сказаў: "Ваў, крута!" У яго і самога ёсць такі транспартны сродак. Эх, нагадалі вы мне пра мой матацыкл – майго "любімага мужчыну", які так сумуе па мне ў Аўстрыі...

**– Прыязджаючы ў Беларусь, ты ўдзельнічаеш у кампаніях, каб збіраць грошы на добрыя справы. Апошнім разам – на будаўніцтва дзіцячага хоспіса. Табе складана сустракацца з цяжка хворымі дзецьмі?**

– Можа, у мяне моцны характар, але я не плачу, калі прыходжу дадому пасля такіх сустрэч. Я проста думаю, чым яшчэ магу дапамагчы. Існуе вялікая розніца паміж жалем і спачуваннем. Жаль вымагае тваіх эмоцый і не прыносіць аніякай карысці. Спачуванне ж немагчыма без актыўных дзеянняў.

**– Як гэта разумець?**

– Можа, я дрэнны чалавек, але ніколі не даю грошай вулічным жабракам. У большасці з іх ёсць рукі-ногі: чаму ты не працуеш і б'еш на жаль? У роднай Оршы жыве мой цёзка Аляксей Талай, які ў дзяцінстве страціў рукі і ногі. Вось дзе можна канчаткова згубіць надзею! Але ён выстаяў, стварыў сям'ю і актыўна яшчэ дапамагае іншым. Наш аршанскі Нік Вуйчыч! Такімі людзьмі я заўсёды захапляюся! Вельмі важна жыць з пачуццём кахання і надзеі ў сэрцы, нават калі няма нікога побач. Проста з любоўю ставіцца да навакольнага свету і яго насельнікаў.

**Ліна МІЛАС.**

**Фота Яўгена АТЦЕЦКАГА.**

ШАХМАТЫ

# Маэстро-романтик



История шахматных матчей на первенство мира связана с нашей страной пока что косвенно. В Минске прошли последние годы жизни Давида Бронштейна (1924–2006), который в далеком 1951 году свел вничью матч с Михаилом Ботвинником. А Борис Гельфанд, не сумевший в 2012 году отобрать шахматную корону у Виши Ананда (7,5:8,5), наоборот, покинул Беларусь задолго до поединка.

Первым же претендентом на звание чемпиона мира, родившимся на территории Беларуси, был Давид Маркелович Яновский (1868–1927). Уроженец Волковыска, он в детстве с родителями переехал в Польшу. На рубеже XX–XXI веков, живя во Франции, выдвинулся в ряды мировой шахматной элиты: чемпион Франции, бронзовый призер первенства Российской империи, победитель и призер многих турниров (Вена, Лондон, Монте-Карло, Ганновер, Кембридж-Спрингс, Остенде, Бармен, Схевенинген, Нью-Йорк и др.). В 1909 году Яновский вызвал на матч чемпиона мира Эммануила Ласкера. «Пробные» партии завершились вничью (2:2), но основной поединок убедительно выиграл Ласкер – 8:2. Через год в новом матче Яновский опять проиграл – 1,5:9,5. Но свое имя в шахматную историю он вписал.

**Яновский–Шаллоп (1896).** 1.d4 d5 2.c4 dc 3.Kf3 c5 4.e3 cd 5.ed Cg4? 6.С:c4 e6 7.Фa4+! Кc6 8.Кe5! Ф:d4 9.К:c6 Фe4+ 10.Сe3 bc 11.Кc3 Ф:g2 12.Сd5!! ed 13.Ф:c6+ Крd8 14.Ф:a8+ Крd7 15.Фb7+ Крe6 16.Фc6+ Сd6 17.Сf4. Черные сдались.

В позиции на диаграмме (из партии **Чигорин–Яновский, 1897)** черные эффектным ударом принудили знаменитого российского шахматиста к капитуляции.

**Белые:** Крd1, Фf3, Лb1, Лh1, Сc1, Сc2, пп.a2, f2, g2, h2 (10).

**Черные:** Крg8, Фa5, Лa8, Лe8, Сc3, Сc8, пп.a4, b7, c6, f7, g7, h7 (12).

Присылайте свои варианты на адрес редакции (220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а) или на электронный адрес: vadim_ne67@mail.ru.

# Турнирные новости

Призовую тройку турнира по быстрым шахматам РЦОП (Минск) составили Сергей Жигалко, Кирилл Ступак и Владислав Ковалев. Победителями другого турнира, прошедшего там же, стали Владислав Ковалев, Александр Кочеев и Валерий Казаковский. А в соревнованиях, состоявшихся в СДЮШОР-11, лидировали Евгений Подольченко, Роман Гриб и Виталий Мерибанов. Чемпионами Брестской области второй год подряд становятся Владислав Каташук и Яна Ильючик. Мемориал Б.Костина в Пинске выиграл Роман Гриб.

На Кубке мира в Баку (128 участников) единственный белорус Сергей Жигалко выбыл на втором этапе из семи, уступив экс-чемпиону мира Веселину Топалову. На чемпионате мира среди девушек до 20 лет в Ханты-Мансийске Анастасия Зезюлькина финишировала пятой из 48 участниц. В американском Гринсборо Сергей Азаров завоевал 6-й приз, Андрей Горовец – 8-й. В итальянском Триесте Никита Майоров был седьмым из 58 участников, в другом турнире на Апеннинах – вторым из 61. В Петербурге Алексей Александров выиграл Мемориал Г.Чепукайтиса по блицу, а Станислав Цыганчук победил на блицтурнире в Швеции (8,5 из 9 очков). На Всемирной юношеской олимпиаде до 16 лет в Монголии белорусская команда финишировала 16-й из 35 команд, а ее участник Вячеслав Зарубицкий разделил 1–2-е места на третьей доске.

## Проверьте решения

Задачи Н.Нарутя (от 15 сентября) решаются так: **1.Фd8!** и **1.Кe8!** Правильные решения этих и предыдущих задач прислали Леонид Шетько, Василий Жукович, Альберт Литвинов, Сергей Пунько (Минск), Ростислав Костючик (Брест), П.Фурсов (Новополоцк), А.Заранок (Калинковичи).

**Вадим ЖИЛКО.**

МАЗАІКА

## Заслужыла!

*Беларуская спартсменка, лідар зборнай Беларусі па мастацкай гімнастыцы **Меліціна Станюта** атрымала званне «Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь».*



Пра гэта стала вядома напрыканцы мінулага тыдня. Ганаровае званне Станюце прысвоіў кіраўнік дзяржавы.

## Аляксандра Сасновіч марыць выйграць Уімблдон

*Беларуская тэнісістка **Аляксандра Сасновіч** упершыню ўвайшла ў першую сотню сусветнага рэйтынга.*



Днямі з'явіўся абноўлены варыянт рэйтынга Жаночай тэніснай асацыяцыі (WTA). 21-гадовая беларуска **Аляксандра Сасновіч** паднялася з 102-га на 99-е месца.

Нядаўна Сасновіч дайшла да фіналу тэніснага турніру ў Сеуле, абыграла некалькі больш рэйтынгавых саперніц.

"Хацела б увайсці ў топ-10 лепшых тэнісістак свету і выйграць Уімблдон", – прызналася сама Аляксандра.

26-гадовая **Вікторыя Азаранка** паднялася з 23-га на 22-е месца. **Вольга Гаварцова** таксама крыху палепшыла сваю пазіцыю ў рэйтынгу, яна 67-я (тыдзень таму была 68-й).

## Не ідуць...

*Сярэдняя наведвальнасць апошняга тура чэмпіянату Беларусі па футболе – 1751 глядач.*



Больш за ўсё балельшчыкаў у 33-м туры сабрала сустрэча БАТЭ (Барысаў) – "Граніт" (Мікашэвічы). І гэта было прадказальна, бо барысаўчане ў той гульні датэрмінова маглі заваяваць золата першынства. На той гульні прысутнічала 5270 чалавек.

Менш за ўсё балельшчыкаў наведалася на матч "Белшына" (Бабруйск) – «Тарпеда-БелАЗ» – 500.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПО ПОВОДУ

# Юбилей Юрия Пудышева



Юрий Алексеевич Пудышев – мастер спорта СССР, чемпион и бронзовый призер чемпионатов СССР. Известный тренер. Футбольные азы Юрий начал постигать с 11 лет. Полвека назад.

Болельщики наверняка помнят, как в 1975 году в минском «Динамо» появился самобытный, техничный, мыслящий полузащитник Юрий Пудышев. Именно в этой команде (особенно когда ей руководил Эдуард Малофеев) раскрылся талант этого замечательного футболиста.

Что еще отличало Пудышева в игре? Полная самоотдача! Он всегда играл с огоньком и выдумкой, умел творить на поле. Обладал всеми качествами, необходимыми для классного полузащитника.

Юрий Алексеевич – человек открытый и общительный, со здравым юмором. Он быстро находил общий язык с ребятами, его избирали капитаном.

В составе минского «Динамо» Юрий Пудышев провел 262 матча, забил 33 гола, в Кубке СССР в 31 матче забіл семь голов. После окончания карьеры перешел на тренерскую работу.

За свой нелегкий труд Юрий Алексеевич награжден почетным знаком Белорусской федерации футбола и знаком «Почетный динамовец». А главное – его по сей день узнают и любят многочисленные поклонники футбола! Нам года не беда – это о нем. В душе Юрий Пудышев – вечно молодой!

**Юрий ЯСИНСКИЙ, ветеран спорта, заслуженный тренер Беларуси.**





УСМІХНІЦЕСЯ

***

Незаўважна для сябе Еўропа прамяняла багатых расійскіх турыстаў на бедных арабскіх і афрыканскіх бежанцаў. І не вядома, што лепей...

Адрас рэдакцыі:
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 3286871.
Тэл. рэкламнага аддзела:
(017) 3286609
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

9 772071 964000 15080

Падпісныя індэксы: 63222 – для індывідуальных падпісчыкаў, 632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.10.2015 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25450 экз. Заказ №4018.